

# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№14(90)

20 жніўня 2012 | Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь

# ХТО БУДЗЕ ЛІЧЫЦЬ ГАЛАСЫ?

Міхась ПЯТРОЎ

***Перад парламенцкімі выбарамі ў краіне было сфармавана больш за 6000 участковых камісій. Гэта камісіі, дзе непасрэдна падлічваюць галасы выбаршчыкаў. Менавіта таму прадстаўнікі апазіцыі заўсёды вылучаюць туды сваіх актывістаў. Але верагоднасць таго, што яны трапяць ў склад камісій вельмі невысокая. І гэтак адбываецца кожны раз.***

Напрыклад на мінулых прэзідэнцкіх выбарах у Клімавічах ва ўчастковую камісію паспрабаваў трапіць Сяргей Аржанцаў. Ён сабраў неабходную колькасць подпісаў, але з самага пачатку разумеў, што спроба не дасць патрэбнага выніку: “Мая спроба звязаная з тым, каб прадэманстраваць, што ўлады не пойдуць насустрач дэмакратызацыі выбараў. Думаю, што пры фармаванні камісій упор будзе зроблены на “Белую Русь”. Гэтыя выбары шмат што вырашаюць для ўлады. Яны не будуць рызыкаваць і не дазволяць нават пагуляць у дэмакратыю” (з інтэрв’ю для Радыё Свабода).

Вядома, што спадару Аржанцаву не пайшлі насустрач. У райвыканкаме яму паведамілі, што быў 21 жадаючы, а камісію стварылі з 19 чалавек. Зразумела, незалежны вылучэнец туды не трапіў. І так было па ўсёй краіне, хаця ўлады казалі, што камісіі будуць фармавацца ў адпаведнасці з дэмакратычнымі стандартамі. Напрыклад, у Магілёўскай вобласці ўсе ўчастковыя камісіі засталіся без прадстаўнікоў апазіцыі. У Магілёве ў камісіі вылучаліся 122 актывісты руху БНФ «Адраджэнне», Аб’яднанай грамадзянскай партыі, Партыі левых «Справядлівы свет» ды іншых арганізацый. Але ніводнага з 122 чалавек не зацвердзілі. У Бабруйску Аб’яднаная грамадзянская партыя вылучала 29 сваіх прадстаўнікоў. Таксама ніхто не прайшоў. Пяцёра актывістаў ва ўчастковыя камісіі Крычаўскага раёну вылучалі рух БНФ «Адраджэнне» і Аб’яднаная грамадзянская партыя. «Іх не ўключылі без тлумачэння прычынаў», — зазначыў для Радыё Свабода адзін з вылучэнцаў, рэдактар газеты “Вольны Горад” Сяргей Няроўны.

Сёлета сітуацыя нават пагоршылася, бо за апошнія два гады беларускія ўлады згубілі патрэбу ў гульнях з Захадам. Апазіцыянераў зноўку паўсюдна не дапускаюць да падліку галасоў. Паўтараецца тая ж гісторыя — у Крычаве адмовілі тром незалежным вылучэнцам, у Клімавічах не прапусцілі Аляксандра Балобіна, у іншых гарадах Магілёўшчыны таксама ніхто не прайшоў. Зараз ужо вядомыя канчатковыя лічбы фармавання ўчастковых камісій на гэтых выбарах. Агулам па ўсёй краіне ў іх будуць працаваць 68945 чалавек. Сярод іх апазіцыя мае ўсяго 61 прадстаўніка, што складае меней за 0,1%. Такім чынам, відавочна, што ўлады паўсюль арганізавалі свае, патрэбныя ім камісіі. Трэба чакаць, што і вынікі выбараў будуць таксама “арганізаваны”.

# ВЫБАРЫ І ПАЗІЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ

## *Прадстаўнікі “малой прэсы” Магілёўшчыны вызначыліся з асвятленнем выбарчай кампаніі*

Сяржук АРЖАНЦАЎ

***На кожных выбараў перад журналістамі дэмакратычных СМІ паўстае адна і тая ж праблема. У якой ступені журналіст можа выходзіць за рамкі сваёй прафесіі, тым ці іншым чынам удзельнічаць у палітычных працэсах? Знайсці адказ на гэтае пытанне паспрабавалі на нядаўняй дыскусіі ў Магілёве.***

Як паведамляе Служба маніторынгу грамадскага аб’яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў", сустрэча адбылася 3 жніўня. У якасці вядучага дыскусіі выступіў сябра Праўлення “БАЖ” Генадзь Суднік. Таксама ўдзельнічалі журналісты, выдаўцы і рэдактары сямі маланакладных незалежных газет, якія выходзяць сёлета ў вобласці.

Падчас абмеркавання апошніх палітычных падзей, прысутныя пагадзіліся з тым, што журналістам трэба заставацца “люстэркамі” выбарчай кампаніі, а не яе непасрэднымі ўдзельнікамі. Усе разумеюць, што апошняе накладала б на выданні адпаведныя абавязкі і адданасць пэўнай палітычнай пазіцыі. У той час як задача прэсы падчас выбарчых кампаній заключаецца не ў тым, каб правесці ў дэпутаты таго ці іншага дзеяча, а ў тым, каб дапамагчы выбаршчыкам зрабіць свой свядомы і асэнсаваны выбар.

Праўда, па словах рэдактараў, такая пазіцыя вымагае ад іх пэўнай цвёрдасці і ўмення трымацца прафесійных правілаў. А гэта, на жаль, не заўсёды лёгка зрабіць у тых умовах, у якіх выдаюцца малыя газеты. Як адзначылі Барыс Вырвіч з Бялынічаў, Пётр Мігурскі са Шклова, Сяржук Аржанцаў з Клімавічаў і Мікалай Яцкоў з Магілёўскага раёна, самі гэтыя выданні нярэдка выступаюць суб’ектамі мясцовай грамадскай і палітычнай актыўнасці. Таму рэгіянальным журналістам асабліва важна не нарабіць памылак, каб не страціць давер сваіх чытачоў.

Другой часткай дыскусіі сталася абмеркаванне юрыдычных і прававых аспектаў сёлетняй выбарчай кампаніі — з мэтай не дапусціць у “малой прэсе” парушэнняў, што могуць паставіць пад пытанне самую іх працу. У звязку з гэтым юрыст, старшыня Праўлення Магілёўскага праваабарончага цэнтра Барыс Бухель пракансультаваў прысутных і зрабіў для іх разбор асобных прававых сітуацый.



# ДЫК НАВОШТА РАЗУМНЫМ І ПРЫСТОЙНЫМ ЛЮДЗЯМ УДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У СУМНІЎНЫХ ВЫБАРАХ?

***(надрукавана ў газеце НАРОДНАЯ ВОЛЯ, передрук зроблены з скарачэннем)***

**Мікалай КРЫЖАНОЎСКІ**

***На мой погляд, ёсць дзве галоўныя прычыны, якія не дазваляюць разумным і прыстойным людзям удзельнічаць у сумніўных выбарах з ужо вядомым адмоўным для беларускага народа вынікам.***

Прычына першая. У Беларусі не існуе паўнамоцны парламент як вышэйшы прадстаўнічы і адзіны заканадаўчы орган дзяржаўнай улады. Яго ліквідацыя пачалася ў 1995 годзе, калі ў Вярхоўны Савет 12-га склікання былі ўведзены ўзброеныя войскі, якія прымянілі фізічную сілу да дэпутатаў, што аб'явілі галадоўку ў знак пратэсту супраць правядзення па ініцыятыве прэзідэнта ганебнага рэферэндуму аб ліквідацыі беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, аб замене дзяржаўных сімвалаў фактычна савецкімі, аб наданні прэзідэнту права распускаць парламент, аб эканамічных стасунках з Расіяй. Завершана ліквідацыя сапраўднага парламента была ў лістападзе 1996 года пасля незаконна праведзенага рэферэндуму, у выніку якога была зменена Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і ліквідаваны прынцып падзелу улады ў нашай краіне. Здейснена гэта было гвалтоўнымі метадамі.

Пасля завяршэння ўсіх незаконных дзеянняў па ўнясенні змяненняў у Канстытуцыю А.Лукашэнка замест Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь стварыў дзве падкантрольныя яму палаты, якія, лічу, не маюць нічога агульнага з сапраўдным парламентам, бо пазбаўлены галоўных прыкмет і функцый парламента.

Па-першае, палаты не з'яўляюцца адзіным заканадаўчым органам краіны, як гэта ёсць ва ўсіх дэмакратычных краінах, і як гэта было ў далукашэнкаўскай Беларусі. У сённяшняй Беларусі дэкрэт прэзідэнта, паводле артыкула 2 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь”, які прыняла Палата прадстаўнікоў, па сваёй юрыдычнай сіле абвешчаны роўным з законам. Гэта дазваляе прэзідэнту прымаць дэкрэты, якія могуць супярэчыць законам, але яны не могуць быць кваліфікаваныя як незаконныя, бо яны ўжо набылі такі ж самы юрыдычны статус, як і законы. У такіх умовах палаты не здолеюць забяспечыць выкананне прынятых імі законаў, нават тады, калі гэтага пажадаюць. Праўда, такое жаданне, па вядомых прычынах, у іх не можа ўзнікнуць. У выніку наша краіна стала жыць не па законах, якія прымаюцца парламентам, а па дэкрэтах і ўказах прэзідэнта.

Па-другое, палаты пазбаўлены права кантролю над выкананнем дзяржаўнага бюджэту, а таксама права кантролю над выкарыстаннем дзяржаўнай маёмасці. Фармальна палаты кожны год прымаюць Закон “Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь”. Але яны не маюць права кантраляваць яго выкананне. У іх нават няма адпаведнага органа парламенцкага кантролю, як гэта ёсць у парламентаў усіх дэмакратычных краін, і як гэта было ў Беларусі падчас дзейнасці Вярхоўнага Савета 12-га склікання, калі галоўным органам фінансава-эканамічнага кантролю ў дзяржаве была Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь, падпарадкаваная парламенту. Сёння ў Беларусі функцыі кантролю над выкананнем дзяржаўнага бюджэту ўскладзены на Камітэт дзяржаўнага кантролю, падпарадкаваны прэзідэнту.

***Мікалай Кірылавіч Крыжаноўскі — адзін з тых дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання, якія ўдзельнічалі ў распрацоўцы і прыняцці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. У Вярхоўны Савет Мікалай Крыжаноўскі прыйшоў з пасады кіраўніка канструктарскага аддзела завода БелАЗ, маючы вялікі прафесійны досвед і шырокія практычныя веды ў галіне прамысловасці. Ён быў сапраўдным народным кандыдатам — у дэпутаты яго вылучылі 17 працоўных цэхаў БелАЗа.***

Паміж гэтым Камітэтам кантролю і той Кантрольнай палатай Рэспублікі Беларусь ёсць вельмі істотная розніца. Старшыню Кантрольнай палаты большасцю галасоў прызначала Сесія Вярхоўнага Савета краіны (калектыўны орган), і толькі яна (Сесія) магла вызваліць яго ад пасады. Таму старшыня Кантрольнай палаты ў сваёй дзейнасці быў незалежны ад дзяржаўных асоб, кіраваўся толькі Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законам “Аб Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь” і іншымі актамі заканадаўства.

Старшыню Камітэта дзяржаўнага кантролю прызначае і вызваляе ад пасады прэзідэнт, таму ў сваёй дзейнасці Старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю поўнасцю залежыць ад волі адной асобы. У такіх умовах немагчыма нават уявіць, што Камітэт дзяржаўнага кантролю можа дазволіць сабе арганізаваць праверку эфектыўнасці выкарыстання бюджэтных сродкаў або дзяржаўнай маёмасці прэзідэнтам ці яго адміністрацыяй.

Па-трэцяе, палаты не з'яўляюцца прадстаўнічым органам улады, паколькі яны не абіраюцца шляхам дэмакратычных выбараў, што засведчана шматлікімі групамі назіральнікаў, уключаючы еўрапейскіх і міжнародных. Таму ніводныя выбары, якія праводзяцца ў Беларусі пасля 1996 года, не былі прызнаны міжнароднай супольнасцю як дэмакратычныя.

Прычына другая. У Беларусі выбарчая сістэма не дэмакратычная. Падлік галасоў не падкантрольны грамадству. У такіх умовах рэжым “прызначае” дэпутатамі толькі сваіх, правераных на лаяльнасць, кандыдатаў. Астатнія проста не маюць ніякіх шанцаў перамагчы на такіх выбарах. А.Лукашэнка ўжо даў устаноўку — не меней 30 % дэпутатаў у новым складзе Палаты прадстаўнікоў павінны быць людзі, правераныя ў сённяшняй палаце. Можна меркаваць, што на астатнія 60 % таксама будзе падрыхтаваны поўны спіс, узгоднены і ўхвалены кім трэба. Дык няўжо ў кагосьці з беларусаў можа ўзнікнуць сумненне, што дадзеная ўстаноўка можа быць не выканана?

Адзіная праблема рэжыму — як зацягнуць людзей на выбарчыя ўчасткі, каб выкарыстаць іх дзеля ўмацавання сваіх меркантыльных інтарэсаў. І вось гэта праблема рэжыму дае беларусам надзею і шанц, паводле трапных слоў неўміручага Янкі Купалы, “не быць скотам”.

Дык навошта разумным і прыстойным людзям удзельнічаць у сумніўных выбарах з ужо вядомым адмоўным для беларускага народа вынікам? Ці ж варта ў каторы раз наступаць на адны і тыя ж граблі?





# РУХ «ЗА СВАБОДУ» ПРАДСТАВІЎ НОВУЮ ВЕРСІЮ «НАРОДНАЙ ПРАГРАМЫ»

Сяргей ПУЛЬША, БелаПАН.

***Грамадскае аб'яднанне «Рух «За Свабоду» прадставіла 15 жніўня ў Мінску новую версію «Народнай праграмы».***

Як паведаміў на прэзентацыі каардынатар праекта, намеснік старшыні руху «За Свабоду» Юрый Губарэвіч, праграма ўключае прапановы па рэфармаванні грамадскай, эканамічнай і палітычнай сістэмы Беларусі. «Яна пачала ствараецца перад прэзідэнцкімі выбарамі 2010 года, а найболей актыўная фаза яе стварэння прыйшлася на крызіс 2011 года. За гэты перыяд мы змаглі прыцягнуць да працы над праграмай прыкладна 40 беларускіх экспертаў у розных сферах — ад эканомікі да сацыяльнай палітыкі», — сказаў Губарэвіч.

Пры гэтым ён паведаміў, што праграма стваралася з улікам грамадскай думкі.

«Мы апублікавалі яе праект на сайце. Пад больш як 20 тэмамі мы атрымалі сотні крытычных водгукаў, якія былі ўлічаны пры распрацоўцы праграмы», — адзначыў намеснік старшыні руху «За Свабоду» .

Як адзначыў адзін з экспертаў, якія працавалі над стварэннем «Народнай праграмы», эканаміст Сяргей Чалы, яна адрозніваецца ад астатніх падобных партыйных дакументаў. «Па-першае, гэта была спроба зрабіць непартыйную агульную праграму, а па-другое, прыцягнуць да яе стварэння шмат экспертаў. Гэта значыць, можна гаварыць, што яна ўжо прайшла экспертную ацэнку», — сказаў Чалы.

# ЛУКАШЕНКО САМ СЕБЕ ПОСТАВИЛ «НОЛЬ»

Вадим ЛИВНЕВ, Салідарнасць




9 августа, говоря об увеличении средней зарплаты до 500 долларов, Александр Лукашенко заявил, что для этого необходимо прежде всего повысить производительность труда. А потом выдал тираду:

— Я вижу, что это сделать можно. И требования небольшие — что такое 500 долларов? Это не деньги.

Когда деятельность Лукашенко на посту главы государства скептически оценивает «пятая колонна», это можно списать на её необъективность. Но тут он сам признался, что за 18 лет правления так и не смог выстроить экономику так, чтобы белорусы зарабатывали нормальные деньги. Хотя бы как поляки, у которых средняя зарплата давно и уверенно перевалила за 1000 долларов, а многие цены существенно ниже наших.

Итак, наши граждане получают «не деньги». То есть, по сути, ничего. Ноль. Это и есть оценка, которую Лукашенко невольно, но справедливо поставил сам себе.

## *УСЁ БОЛЕЙ БЕЛАРУСАЎ ШУКАЮЦЬ ПАЛІТЫЧНАГА ПРЫТУЛКУ Ў ЕЎРОПЕ*

***Радыё Свабода паведамляе, што летась колькасць беларусаў, якія падалі звароты па палітычны прытулак ў еўрапейскіх краінах, вырасла больш чым на палову. У 2011 годзе такіх было 1441, а годам раней 941. Такія лічбы дае офіс Вярхоўнага камісара ААН у справах уцекачоў у сваёй справаздачы за 2011 год.***

***У шэрагу еўрапейскіх краінаў беларускія ўцекачы апынуліся ў дзясятцы найбольш шматлікіх заяўнікаў паводле краіны паходжання. Лідэрам тут сталі Нідэрланды — за мінулы год там звярнуліся па палітычны прытулак 256 чалавек з Беларусі. Агулам офіс Вярхоўнага камісара ААН падае лічбу 5925 чалавек, якія на канец 2011 году былі ўцекачамі з Беларусі.***

## *МІНІМАЛЬНЫ ЗАРОБАК У ЛІТВЕ ПАВЫШАНЫ ДА 300 ДАЛЯРАЎ*

***Сайт газеты "Наша Ніва" са спасылкай на ru.delfi.lt паведаміў аб павышэнні "мінімалкі" у Літве. Мінімальны заробак павышаецца на 50 літаў — да 850 літаў (2 млн 550 тыс беларускіх рублёў, або 302 даляры паводле сённяшніх курсаў у эквіваленце).***

## *ПРАЦУЕМ НА СКЛАД. ЗАПАСЫ ПАВЯЛІЧЫЛІСЯ НА 62%*

***Запасы гатовай прадукцыі на прамысловых прадпрыемствах Беларусі на 1 жніўня 2012 года дасягнулі амаль 21 трыльёна рублёў, павялічыўшыся з пачатку году на 61,9%, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт.***

***Суадносіны запасаў гатовай прадукцыі і сярэднемесячнага аб'ёму вытворчасці склалі 51,3% супраць 50,7% на 1 ліпеня.***

# *БЫЛЫ БАНКІР ПРАКАПОВІЧ ПРЫЗНАЧАНЫ ПАМОЧНІКАМ ЛУКАШЭНКІ*

Пётр Пракаповіч, былы кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі, прызначаны памочнікам Аляксандра Лукашэнкі па эканоміцы.

Год таму ён пакінуў пасаду старшыні Нацбанку. А зараз ён прызначаны замест Сяргея Ткачова, якога Лукашэнка вызваліў ад пасады свайго памочніка "ў сувязі з пераходам на іншую працу".

Пётр Пракаповіч кіраваў Нацбанкам з 1998-га па 18 ліпеня 2011 года і быў звольнены ўказам кіраўніка краіны "ў сувязі з выходам у адстаўку". Адстаўка тлумачылася праблемамі са здароўем. Але наўрад ці супадзенне, што кіраўнік галоўнага банку краіны сышоў з пасады пасля таго, як абрынуўся рубель.

Цікава, што спачатку сваю кар'еру Пётр Пракаповіч зрабіў у будаўніцтве. З Лукашэнкам зблізіўся ў часе дэпутацтва ў Вярхоўным Савеце. А ўжо потым Лукашэнка прызначыў яго кіраваць Нацбанкам. Шмат хто памятае, што калі пачалі абясцэньвацца грошы, Пракаповіч насуперак усяму працягваў супакойваць людзей: «Курс стабільны і будзе заставацца стабільным». Пасля таго яго рэпутацыя была моцна падпсавана фінансавым крызісам, калі беларускі рубель дэвальваўся амаль што ў тры разы.

І вось няўдалы фінансіст зноў атрымаў прызначэнне на высокую пасаду.



# КОМБАЙНЫ ПОД ЗАБОРОМ

**Михаил ПЕТРОВ**

***Уборочная страда в Беларуси — это настоящее священнодействие. В госСМИ про уборку зерновых пишут и сообщают чаще, чем про любое другое событие в стране или мире. Само собой разумеется, что при этом обязательно упоминается, а то и цитируется глава государства. Без этого никак, ведь все знают, что Лукашенко ревностно относится ко всему, что относится к аграрной сфере. Он убеждён, что во время его правления произошло возрождение белорусского сельского хозяйства. В чём-то с такой позицией можно согласиться, но не полностью, а только частично. В пользу этого мнения говорят факты, а нередко и откровенные высказывания самого президента.***

В конце июля Лукашенко лично проконтролировал ход уборочной в Брестской области. Среди прочего, им было отмечено, что на местах не всегда эффективно используются комбайны. А кое-где сельхозтехника простаивает из-за отсутствия механизаторов. Сделанные по этому поводу выводы отличались резкостью и эмоциональностью: «Там, где не хватает механизаторов, надо выгонять с работы вплоть до председателя райисполкома и объявлять выговор губернатору. Комбайн — машина особая. Она работает один месяц в году. И постоянно за этим комбайном должны быть закреплены механизаторы. Об этом надо думать не в момент уборки или накануне, а круглый год». Лукашенко предупредил, что если где-то будет обнаружено, что техника простаивает, то «больше не получите ни одного комбайна на область. Потому что мы здорово помогаем. А вы их под забором держите».

Добавить к сказанному можно немного. Нехватка механизаторов в «возрождённом» сельском хозяйстве стала уже обыденным делом. Мужских рук, тем более квалифицированных, на селе всё меньше. Если бы не так, не привлекали бы к уборочной армию, милицию, учебные заведения. На трактора и комбайны каждое лето сажают пенсионеров-водителей, школьников, даже женщин. Так что простаивание техники вызвано сугубо объективными обстоятельствами.

А вот о том, что «мы здорово помогаем», хочется поговорить более детально. Лукашенко считает, что сельское хозяйство снабдили всем необходимым. Но это не совсем так, а что касается комбайнов, так и вовсе далеко от истинного положения дел. Обратимся к официальному статистическому сборнику, изданному в 2010 году. В 2001 г. в сельхозорганизациях числилось 17 тыс. зерноуборочных комбайнов, в 2005 г. — 12,6 тыс., в 2010 г. — 12,2 тыс. Думается, что комментировать приводимые цифры излишне. А вот и самые последние данные: по итогам января—мая 2012 года производство зерноуборочных комбайнов в стране снизилось на 51,7% (на 660 штук).

Таковы статистические данные в целом по стране. А изучение ситуации в конкретных регионах также подтверждает вывод о нехватке необходимой сельхозтехники. Возьмём для примера Климовичский район. По официальным сведениям в настоящее время в районе имеется 95 зерноуборочных комбайнов. Из них на полях Климовщины, как поведала своим читателям в начале августа местная районка, убирало хлеб 80 комбайнов. Велико или мало это количество? Чтобы понять, укажем, что несколько лет назад, в 2006 году, тогдашний руководитель райсельхозпрода Александр Михеенко сообщал, что машинно-тракторный парк района насчитывает 84 комбайна. Следовательно, за последние годы значительного увеличения количества комбайнов в Климовичах не произошло. А если копнуть ещё глубже?

Вот сведения Климовичского районного отдела статистики, помеченные январём 1994 года. На 1.01.1994 г. в сельхозорганизациях района имелось 278 зерноуборочных комбайнов. Это почти в три раза превышает наличие комбайнов в 2012 году. И, кстати, ещё не избран первым и бессменным президентом сами знаете кто. Но он уже готовится к главному событию в своей жизни. Президентские выборы состоятся в этом же 1994 году, а уже после белорусский народ получит изменение Конституции, европейские зарплаты, возрождение села и многое-многое другое. В том числе и комбайны под забором.

# РАЗОРИТЕЛЬНЫЕ УСПЕХИ

**Игорь БЫЧКОВ**

***Чтобы понять, во что превратилось белорусское сельское хозяйство, процитируем отрывок из материала двухлетней давности. В июне 2010-го республиканская газета «Белорусская Нива», учредителем которой является Правительство РБ, написала чёрным по белому следующее: «Эффективность белорусского АПК с начала года — фактически нулевая. То есть, сколько потратили в процессе производства продукции, почти столько и выручили от её продажи. Не случайно просроченная кредиторская задолженность сельхозорганизаций на 1 мая составила 2,1 триллиона рублей и в 5,1 раза превысила задолженность дебиторскую. Фактически это — дефолт, ибо только просроченный долг крестьян тянет на двухмесячный объём производства».***

***Заметим, что это было сказано задолго до девальвации 2011 года, напрочь обрушившей финансовую систему государства. Не надо быть специалистом, чтобы представить, что произошло с белорусским АПК после развёртывания кризиса. На 1 января 2012 года сельское хозяйство имело системных обязательств на сумму 60 триллионов руб. «Даже если ожидаемая выручка в 2012-м составит около 47-47,5 трлн. рублей, надо полтора года работать, ничего при этом не приобретая и не тратя». Последняя цитата — это из выступления главы Правительства Мясниковича в феврале текущего года.***

***Исходя из вышесказанного, выражение «фактически это — дефолт» государственным газетам сегодня следует публиковать чуть ли не ежедневно. Но вместо этого читаем мы совсем другое и иногда кажется, что пропагандисты от власти просто утратили чувство реальности. Ну кому, спрашивается, могла прийти в голову идея награждать комбайнёров Могилёвщины спортивными костюмами олимпийской сборной Беларуси? Видимо, кто-то посчитал, что выглядеть это будет как поощрение. Но в свете провального выступления сборной на Лондонской Олимпиаде воспринимается подарок совсем по-другому. У спортсменов это был наихудший результат за последние двадцать лет. Так что параллели с разорительными успехами в сельском хозяйстве поневоле напрашиваются сами собой.***





# МІХАІЛ МІКЕШЫН

**Алесь ЛАПО**

***Яго скульптуры аздобілі плошчы найбуйнейшых гарадоў, а велічны манумент Тысячагоддзе Расіі ў Ноўгарадзе стаў увасабленнем багатай рускай гісторыі. Нават ракавое ХХ стагоддзе, — час, калі руйнаваліся старыя і ўсталёўваліся новыя бронзавыя ідалы, пакінула майстра ў шэрагу самых цікавых, даравітых рускіх скульптараў усіх часоў. Цяпер Кіеў не ўявіць без помніка Б. Хмяльніцкаму, Санкт-Пецярбург — без манумента Кацярыне ІІ, Белград — без помнікаў Карагеоргію і Міхаілу Абрэнавічу. Не абдзяліў сваёй увагай М. Мікешын і іншыя гарады. Помнікі Казьме Мініну ў Ніжнім Ноўгарадзе, Івану Сусаніну ў Кастраме, Ярмаку ў Новачаркаску, адміралу Грэйгу ў Нікалаеве, Аляксандру ІІ ў Роставе-на-Дану, скульптуры ў гонар рускай вайсковай славы ў Палтаве і Севастопалю, дагэтуль радуюць вока гараджан і турыстаў.***



Цікава, што Беларусь вялікі майстра называў не інакш як “радзімай”, а Клімавічы — “трушчобай”, “нешчаслівейшым горадам найбяднейшай Беларускай губерні”: “Каля 15 год таму давялося мне быць на радзіме, у Беларусі, і трапіць ў такі глухі гарадок, роўнага якому па беднаце, тужлівасці, бруду ледзьве дзе знойдзеш ва ўсёй нашай маці Расіі”. У Клімавічы Міхаіл Мікешын прыязджаў наведаць сваю сястру, якая “здавён бедавала ў гэтым гарадку, у замужжы за адным мясцовым карэнным абарыгенам горада”. У горад Міхаіл наведваўся ў 1865, 1879 і 1892 гг. ужо знаным майстрам. У першы раз наведванне горада М. Мікешынам супала з рэкруцкім наборам, на які ён быў прыязна запрошаны мясцовымі ўладамі. Змрочная атмасфера набора, жаночае выццё і рыданне, адчай нягеглых рэкрутаў натхнілі Міхаіла на некалькі алоўкавых малюнкаў: “Ад музыкі, ад дуды ходзяць ногі не туды”, “Любоў”, “Паштовая эстафета”, “Беларускія тыпы” і г. д. Некаторыя яго малюнкі-алеаграфіі з аўтарскімі іранічнымі подпісамі паступалі ў продаж у саміх Клімавічах.

Нарадзіўся ж Міхаіл 21 лютага 1835 г. у вёсцы Максімаўка, што непадалёк ад Рослаўля. Выхоўваўся ў сям’і мелкага памешчыка Восіпа Ягоравіча, выбітнага хіба толькі ўдзелам у партызанскай барацьбе супраць напалеонаўскіх войскаў. У маці Ганны Дмітрыеўны, якая паходзіць са знатнага польскага роду Барташэвіч-Адалянскіх, ад Напалеона Банапарта засталіся толькі самыя цёплыя ўспаміны і засушаная чайная ружачка, падараваная французскім імператарам у 1807 г. як самай прыгожай навучэнке варшаўскага інстытута высокародных дзяўчын. Цераз няньку Ганку і дзядулю Міхаіл знаёміўся з беларускай культурай. Ва ўспамінах ён узгадвае пра пачутыя ад нянькі, простай беларускай сялянкі, казкі і гісторыі пра ваўкалака; пра дзядулю, які навучыў яго граць на гуслях і спяваць песні. Значна пазней словы адной з песняў М. Мікешын наспявае кампазітару Чайкоўскаму і той скарыстае яе матыў у сваёй творчасці.

Адукацыю Міхаіл атрымліваў ў Рослаўскім павятовым вучылішчы і Смаленскай класічнай гімназіі, пасля чаго, дзякуючы шчасліваму збегу абставін трапіў ў 1852 г. у батальны клас прафесара Б. Вілевальдэ ў Акадэмію мастацтваў у Санкт-Пецярбурзе. Ужо першую карціну сямнаццацігадовага М. Мікешына “Лейбгусары ля вадапоя” набывае імператар Мікалай І за 150 рублёў срэбрам. Найбольш жа ўдалымі жывапіснамі працамі Міхаіла сталі “Бітва пры Башкады-кларе” (1855) і “Граф Цілі ў Магдэбургу” (1858), уганараваныя адпаведна Малым і Вялікім залатымі медалямі Акадэміі. Аднак сапраўдную вядомасць М. Мікешын атрымаў не ў якасці жывапісца, але як аўтар скульптурных праектаў. Дэбютаваў Міхаіл праектным помнікам у гонар тысячагадовай гісторыі Русі, які атрымаў перамогу на конкурсе сярод 53 прэтэндэнтаў.

Манумент уяўляў сабой вялізны звон, апаясаны навокал найболей значнымі фігурамі з рускай гісторыі, такімі як Рурык, Уладзімер Святаславіч, Дмітры Данскі, Іван ІІІ, Пажарскі і Мінін, Петр І, Кацярына Вялікая. У ніжнім поясе дадаткова былі выяўлены яшчэ 109 выбітных дзеячаў рускай гісторыі і культуры. Сярод іх зусім чужынцамі выглядаюць барэльефы вялікіх князёў літоўскіх Гедыміна, Альгерда, Вітаўта, князя Кейстута. Іх з’яўленне было звязана з унутранай палітыкай Расійскай імперыі, накіраванай на зрастанне літоўска-беларускай гісторыі ў агульнарасійскую. Помнік Тысячагоддзе Расіі (1862), акрамя вядомасці прынёс М. Мікешыну ордэн Уладзіміра IV ступені і пажыццёвую пенсію.

Цяпер яго паслугі ў скульптурным праектаванні становяцца запатрабавальнымі, а стыль запамінальным і пазнавальным. Пастамент скульптура Кацярыны ІІ у Санкт-Пецярбурзе (1873) гэтаксама апаясаны партрэтнымі выявамі дзеячаў кацярынаўскай эпохі Дзяржавіным, Суворавым, Румянцавым, Пацёмкіным і іншымі. Помнікі Б. Хмяльніцкаму (1888) і М. Глінку меркавалася аздобіць барэльефамі з выявай беларуса, украінца і рускага, чым пазначыць прагу да аб’яднання ўсходнеславянскіх народаў першага і народны характар творчасці другога.

Дарэчы, тагачасны літэратар і журналіст А. Эвальд у некралогу, прысвечаным Мікешыну, распавядаў пра памерлага, што “часам ён называў сябе беларусам” і спрабаваў размаўляць на, як здавалася аўтару, “маларасійскай мове” (хоць справядлівай выглядае здагадка, што мова была беларускай), што ў яго дрэнна атрымлівалася, аднак “да сваіх патугаў размаўляць на незнаёмай яму мове Мікешын ставіўся вельмі сур’ёзна”. Вядома, што на такую этнічную самаідэнтыфікацыю паклаў свой след глухі, бядняцкі, тужлівы гарадок Клімавічы…



# РЕПЕТИТОРЫ РАДЫ, ОСТАЛЬНЫЕ — НЕ ОЧЕНЬ

**Елена ПОЛЯКОВА**

***В августе этого года Министерство образования РБ приняло Постановление №77, регламентирующее перечень экзаменов после окончания школы. В Постановлении говорится: «По завершении обучения и воспитания на III ступени общего среднего образования учащихся при освоении содержания образовательной программы среднего образования обязательными являются: «Математика» в письменной форме; «Белорусский язык» или «Русский язык» по выбору учащегося в письменной форме; «Иностранный язык» в устной форме». Это означает, что третьим обязательным экзаменом для 11-х классов в Беларуси с 2013 года станет иностранный язык. Как следует отнестись к такому новшеству?***

Все мы знаем, что на уроках иностранного дети обычно изучают грамматику, учат новую лексику, выполняют письменные упражнения. Это всё нужно и хорошо, но совсем не секрет, что годы обучения в школе не всегда помогают подростку развивать разговорные навыки. Исключения из этого правила до сих пор единичны. Экзамен же по иностранному языку согласно решению Министерства будет проводиться именно в устной форме.

Понятно, что даже самый хороший учитель не может дать максимум знаний всем учащимся просто потому, что у его учеников не совпадают способности, уровень подготовки и мотивация к усвоению учебного материала. Поэтому на уроках педагог, как правило, работает на «среднего» ученика. Возникает вопрос: как ученику получить всё необходимое, чтобы успешно сдать экзамен по иностранному языку? Подчеркну, что ключевое слово здесь «успешно», а не «сдать».

Наше общество уже приучено к тому, что самое лучшее и качественное дешёвым и тем более бесплатным не бывает. В этом уверены и многие родители, чьи дети учатся в школе. Сегодня нанимать репетиторов принято практически с начальных классов. Считается нормой, что за дополнительные деньги учитель работает лучше. Однако в нынешних экономических условиях далеко не каждый семейный бюджет «потянет» оплату послеурочных занятий (к тому же кроме иностранного языка есть и другие обязательные экзамены). Следует признать, что подобное положение, в первую очередь, выгодно учителям-репетиторам. Можно не сомневаться, что после принятия Постановлению №77 они обязательно используют возникшую возможность подзаработать.

Увы, в школах частенько имеют место ситуации, когда учитель прямо или косвенно намекает ученикам или их родителям, что без дополнительных занятий с ним не видать хорошей отметки по его предмету. Конечно, каждый делает выбор лично для себя, да и однозначного мнения, нужно ли прибегать к помощи репетитора, не существует. Но всё-таки не хотелось бы, чтобы введение иностранного языка в категорию экзаменационных предметов вызвало ещё большее опустошение родительских кошельков.

Моё личное мнение заключается в том, что и самостоятельная работа учащегося и занятия с репетитором непременно требуют ответственного отношения самого ученика. Как ни крути, а в основе высокого результата всегда находится труд и усердие. А при необходимости можно обратиться и за помощью, ведь профессионалы есть в любом деле. У нас в Климовичском районе наибольшую известность получила учитель английского и испанского языков Тимоновской средней школы Волкевич Елена Николаевна. Она является победителем третьего (областного) этапа конкурса «Учитель года-2009». Имеет высшую квалификационную категорию и степень бакалавра педагогических наук. Является руководителем методического объединения учителей иностранного языка района. Её ученики по праву становятся победителями областных и республиканских олимпиад. Думается, что никто из них не станет жалеть о том, что в следующем году обязательным экзаменом в школах будет иностранный язык.

# БАЛКОНЫ ОСТАЛИСЬ БЕЗ РЕМОНТА

**Сергей АРЖАНЦЕВ**

***Сколько можно ждать ремонта аварийного балкона? Вопрос, на первый взгляд, простой, но точного ответа на него никто не скажет. Иногда это ожидание растягивается на годы. Боюсь сглазить, но, похоже, нашему дому предстоит пережить нечто подобное.***

Пример с многолетним ожиданием не преувеличение. Вот одна из ситуаций, описанная в публикации «Советской Белоруссии». Дом по проспекту Мира в Могилёве был построен в 1962 году. Ещё в 1998–м коммунальники рекомендовали жильцам не пользоваться балконами, а в 2003–м вообще запретили туда выходить. Последующие десять лет ремонт не проводился. Выдержать столько лет в добровольном заточении готов далеко не каждый квартиросъёмщик.

Теперь данная проблема затронула дом, в котором я живу. Ещё в феврале работники коммунального хозяйства обошли жильцов и дали им под расписку следующий документ: «Предупреждение. Климовичское ДУКП «Жилком» ставит Вас в известность, что в связи с тем, что балкон находится в аварийном состоянии, пользование им запрещается». На вопросы людей объяснялось, что ремонт планируется осуществить в течение лета.

Первоначально все надеялись, что коммунальщики назвали реальные сроки. И вот закончилась зима, затем прошла весна, следом наступило лето с его изнуряющей жарой. Переносить летнюю духоту в закрытом помещении не очень приятно и даже вредно. Тут- то многие жильцы вспомнили о названных сроках. А на календаре уже заканчивается август! Да и знакомые работники «Жилкома» неофициально подтвердили, что



балконы в этом году остаются без ремонта. Дескать, вы в пролёте из-за постоянных временных трудностей коммунального хозяйства. А то, что балконы аварийные, так они и в других домах города не в лучшем состоянии. Выходит, что нас предусмотрительно предупредили, а выполнять обещанное — это уже дело десятое. А если что случится — мы были предупреждены.

# В ГОСТЯХ У ПОЛЬСКОЙ ТЁТИ

**Мария ЭЙСМОНТ, «Народная воля»**

***Как живут пенсионеры в соседней Польше? Официальные польские органы утверждают, что средняя пенсия в стране 500 долларов.***




По белорусским меркам это много, в нашей стране даже средняя зарплата не достигает таких цифр. Но хватает ли этих денег польским пенсионерам?

Ответ на этот вопрос я получила, как говорится, из первых рук — в отпуске навестила свою тетю Ирэну Нерлинг, которая живет в Лодзи.

Моей тете Ирэне 73 года. Из Западной Беларуси её семья выехала в Польшу в 1945 году, когда маленькой Ирэнке едва исполнилось 6 лет. В Польше она пошла в школу, окончила техникум и всю сознательную жизнь трудилась в сфере торговли.

Свою пенсию тетя заработала в социалистической Польше, т.е. до пенсионной реформы, которая началась в Польше в конце 1990-х. Сегодня, к слову, в Польше на равных функционируют две системы — накопительная и распределительная, как в Беларуси. Распределительная распространяется на поляков, родившихся до 1 января 1949 г., и по ней пенсии выплачиваются за счет работающих поляков, которые вносят часть заработанных денег в общую кассу. У моей тети именно такая пенсия.

Ежемесячно тетя получает 1700 злотых. Это приблизительно 530 долларов. «Пенсия не самая высокая, — говорит тетя. — Есть пенсионеры, которые получают гораздо больше. Но есть и те, у кого и этих денег нет. Правда, им государство предоставляет льготы: на проезд, лекарства, бесплатную медицину, есть адресные дотации на оплату жилья и коммунальных услуг».

Наш разговор проходит после вкусного обеда, приготовленного тетей. К столу она подавала сладкий суп с черникой, овощной салат и клецки с мясом, замаринованным в соевом соусе. На десерт — творожный пирог. Завтракали мы, к слову, бутербродами из красной рыбы, ветчиной и блинчиками с творогом. Вообще всю неделю тетя кормила нас разными вкусностями, и каждый раз на столе были новые блюда, причем из недешевых продуктов. Про себя я отметила, что если бы моя мама-пенсионерка так угощала гостей на протяжении недели, то вряд ли бы ей хватило на продукты полутрамиллионной пенсии. А если бы и хватило, то остальные три недели месяца ей пришлось бы голодать...

Позже, когда я зашла в один из супермаркетов Лодзи и увидела цены на продукты, поняла, почему для польского пенсионера качественные продукты — не роскошь. Цены на них как минимум в полтора раза дешевле, чем в Беларуси... А мясо, рыба, макароны даже в два раза!

Судите сами: килограмм свиной незамороженной вырезки стоит в супермаркете Лодзи в пересчете на белорусские рубли 32 тысячи, в минском «Бигзе» — 67 тысяч, куриные окорочка поляки покупают по 14 тысяч за килограмм, мы по 30.500, сосиски высшего сорта — по 27 тысяч, мы — по 50 тысяч и более. Скумбрия холодного копчения в Польше реализуется в переводе на наши рубли по 45 тысяч, в Беларуси — почти по 90! Удивительно, но почему-то в 2 раза отличаются цены и на итальянские макароны. В супермаркете Лодзи ценники на них 8,5—10 тысяч, в Минске — 14—18 тысяч. Что, по пути в Минск они становятся более полезными? Или просто в Беларуси на импорте продуктов кто-то хорошо зарабатывает?

К слову, еще по пути в Польшу в поезде «Минск—Варшава» о разнице в ценах в Польше и Беларуси рассуждал наш попутчик, который живёт в Бресте. «По субботам мы ездим за покупками в Тересполь, в «Бедронку», — рассказывал Андрей. — К счастью, визы есть у всей семьи. Покупаем там все — продукты, одежду, моющие средства, туалетную бумагу, памперсы для младшей дочки, даже губки для мытья посуды. Вся техника в доме из Польши. В Бресте покупаем только хлеб, молоко и молочные продукты».

...Тетя Ирэна, как бы подытоживая тему цен, заявила: «С востока к нам едут за покупками белорусы, с запада — немцы. В Польше относительно невысокие для Европы цены на продукты. Но я, если честно, не предполагала, что так сильно они отличаются от цен в Беларуси».

# ПОЧЕМУ БЕЛОРУССКИЕ ПЕНСИОНЕРЫ ЗАВИДУЮТ ПОЛЬСКИМ?

**Мария КОВАЛЬЧУК, zautra.by**

***С 1 августа в Беларуси осуществляется перерасчёт пенсий. Но до выплат, которые получают их ровесники в соседней Польше, белорусам всё равно далеко.***



В марте 2012 года среднемесячная пенсия в Польше составила 1761,52 польских злотых, или 4 млн. 298 тысяч белорусских рублей. В Беларуси далеко не все работающие могут похвастаться такой зарплатой. Что касается пенсионеров, то их доходы ещё более скромны. Размер средней трудовой пенсии в Беларуси не дотягивает и до полутора миллиона. С 1 мая он составляет 1 млн. 472,7 тысячи рублей. Выходит, польские пенсионеры богаче белорусских почти в 3 раза!

Такой разрыв сохраняется и в размерах социальных пенсий. В Польше социальная пенсия в перерасчёте на белорусские рубли составляет 1 млн. 665 тысяч 715 рублей (682,67 польских злотых), в Беларуси — всего 689 тысяч 220 рублей.





# ПОТРЕБИТЕЛЬ ИМЕЕТ ПРАВО

Могилёвское городское общество защиты потребителей создано 20 августа 1990 года. За 22 года работы, по словам председателя городской организации «БОЗП» Василия Черного, активисты оказали помощь в решении различных вопросов более чем 120 тысячам потребителей Могилёва и области по защите их законных прав и интересов.

В связи со вступлением в силу с 11 августа 2012 года изменений и дополнений в Закон «О защите прав потребителей» Могилёвская городская организация меняет регламент работы. Прием потребителей с 13 августа будет осуществляться ежедневно (кроме субботы и воскресенья) с 10.00 до 14.00. Бесплатные консультации — по телефону-автоответчику «горячей линии» 22-93-92. E-mail: bozp_mogilev@tut.by

Согласно закону, полномочия в сфере защиты прав потребителей возложены на Министерство торговли. Поэтому по вопросам защиты своих законных прав и интересов граждане имеют право обратиться в управление торговли и услуг облисполкома (Дом Советов, 6 этаж), а также в управление торговли и услуг Могилевского горисполкома (ул. Первомайская, 28а, 6 этаж). В каждом районе есть государственные уполномоченные по защите прав потребителей, которые должны давать бесплатную консультацию, помочь в подготовке правовых документов.

***(по информации газеты «Могилёвская Правда»)***

# НА ИНТЕРНЕТ-ПРОСТОРАХ

***Сайт belhistory.com — это специализированный ресурс по истории Беларуси. Цель этого сайта познакомить всех желающих с историей и культурой, как можно более полно отразить многовековой путь белорусов в непрерывной связи с историческим процессом на Европейском континенте. Он отражает наиболее значимые события, происходившие на территории современной Беларуси ещё с доисторических времен и до наших дней.***

***Сайт Vilnia-by.com предоставляет посетителям различную информацию про Вильнюс и в целом про Литву. Здесь много полезного находят для себя и туристы, планирующие отдых в Литве, и потенциальные покупатели литовских магазинов, приезжающие в Вильнюс за покупками. То, что сайт полезен и интересен, демонстрирует динамика его посещаемости — за два года существования сайта количество посетителей неуклонно растёт.***

# ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ ДЛЯ ПАЦЯРПЕЛЫХ АД ДАМАШНЯГА ГВАЛТУ

БелаПАН інфармуе, што ў Беларусі пачала працу агульнанацыянальная бясплатная гарачая лінія для пацярпелых ад дамашняга гвалту — 8-801-100-8-801, створаная на базе міжнароднага грамадскага аб’яднання «Гендарныя перспектывы».

Лінія створана ў межах праекта міжнароднай тэхнічнай дапамогі «Павышэнне нацыянальнага патэнцыялу дзяржавы па супрацьдзеянні дамашняму насіллю ў Беларусі». Магчыма аказанне як псіхалагічнай дапамогі, так і юрыдычных кансультацый, паслуг па сацыяльным кансультаванні, у тым ліку перанакіраванне ў іншыя арганізацыі і ўстановы — ад праваахоўных органаў, тэрытарыяльных цэнтраў сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва да грамадскіх арганізацый, якія пры неабходнасці могуць даць прытулак ахвяры гвалту.

Галоўныя прынцыпы працы лініі — ананімнасць і прыватнасць зваротаў, павага выбару чалавека. Званкі на гарачую лінію прымаюцца са стацыянарных тэлефонаў штодня з 8.00 да 20.00. У аўторак і суботу з 8.00 да 14.00 на лініі дадаткова дзяжурыць юрыст.

# КАК БЕЛОРУСЫ ВОЖДЯ ОСКОРБИЛИ

**Руслан ГОРБАЧЁВ, gazetaby.com**



***Забавную историю об отношении к «великому и любимому вождю» рассказали жители одной из деревень Кореличского района. Дело было то ли после «освобождения» Западной Беларуси в 1939-м, то ли уже после войны. В местечке Мир (том самом, где стоит замок) советская власть поставила на рыночной площади памятник здравствующему вождю СССР, товарищу Сталину.***

***Через несколько дней жители окрестных деревень направились утром в местечко на базар. Среди них были и те двое, вошедшие в устную историю просто как дед и баба.***

***Как въехали в Мир, дед спрыгнул с телеги. Шёл рядом с вожжами в руках, думал о своём. Увидев памятник, мимоходом без задней мысли по-мужицки спросил у дежуривших рядом сотрудников милиции:***

***— А што гэта за пачвара стаіць?***

***У сотрудников отвисли челюсти. Несознательный элемент повёл себя некорректно. После секундного замешательства старого подхватили и транспортировали в отделение, посадили в камеру. Бабка с конем стала ждать деда у входа. А того всё нет и нет. Не выпускают. Через несколько часов, набравшись храбрости, пошла баба деда спасать. По-крестьянски умоляла милиционеров: «Дзед стары, не разбіраецца, адпусціце яго…»***

***И выпросила-таки. Сжалились. Вывели деда из камеры.***

***Баба не сдержалась, стала прямо на пороге отчитывать мужика:***

***— Ну ты дзед на усякае г…но ўвагу звяртаеш!***

***На лицах милиционеров немая пауза. Когда пришли в себя, деда моментально вернули в камеру, но уже вместе с бабкой. Полное отсуствие политического сознания проявила старая! Продержали их сутки. Повезло, что старые были — иначе унизивших честь вождя забрали б насовсем.***



КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр’евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*